# ПАГОНЯ

Чацвер
31 траўня 2001 г.
№ 22 (518)
Кошт 95 рублёў


## «Медык» прывітае інтэграстаў

**25 мая работнікі Гродзенскага унітарнага прадпрыемства «Медык» падалі ў гарвыканкам заяўку на правядзенне чарговага пікета з патрабаваннем своечасовай выплаты зарплаты.**

21 мая каля 60 работнікаў «Медыка» ужо праводзілі санкцыяніраванае пікетаванне, але, паводле слоў ініцыятара акцыі Міхаіла Ешчыка, па стану на 24 мая ніякіх захадаў з боку адміністрацыі прадпрыемства па вырашэнні пытання запазычанасці па зарплаце не выканана. Чарговую акцыю работнікі «Медыка» плануюць правесці 4 чэрвеня ў цэнтры горада, на вуліцы Савецкай. Паводле заявы, удзел у пікетаванні возьмуць каля 300 чалавек.

Як адзначыў Міхаіл Ешчык, дата правядзення пікета абраная не выпадкова - у гэты дзень у Гродна прыедуць беларускія і расійскія парламентары для удзелу ў сесіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. «Мы лічым, што ў такой сітуацыі наш пратэст здолеюць пачуць», - сказаў Міхаіл Ешчык.

Асабіста ён выйдзе на пікет з плакатам, на якім будзе напісаны лозунг: «Работающий обязан жить в достатке».

Павал Мажэйка

## Сельскагаспадарчы форум з удзелам палякаў

**Другі польска-беларускі форум па супрацоўніцтву ў галіне сельскай гападаркі і харчавання праходзіць сёння ў Гродне з удзелам прадстаўнікоў міністэрстваў, мясцовых органаў улады, кіраўнікоў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і ВНУ, прадпрымальнікаў дзвюх краін.**

З польскага боку ўдзел у ім бяруць каля 200 чалавек. Пра гэта паведамілі ў пасольстве Рэспублікі Польшча ў Беларусі. Удзельнікі форуму маюць намер абмяркаваць пытанні пашырэння супрацоўніцтва ў сферы вытворчасці і перапрацоўкі сельгаспрадукцыі, праблемы падрыхтоўкі спецыялістаў у профільных вышэйшых навучальных установах Беларусі і Польшчы. Удзел у адкрыцці ўзялі пасол Польшчы ў Беларусі Марыуш Машкевіч і старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Саўчанка.

У рамках форуму плануюцца пасяджэнні дзвюх рабочых груп, якія падрыхтуюць да яго завяршэння свае праекты па супрацоўніцтву. Гандлёва-інвестыцыйная група разгледзіць праблемы і перспектывы супрацоўніцтва ў сельскагаспадарчай вытворчасці, перапрацоўцы сельгаспрадукцыі і арганізацыі рынкаў яе збыту; у задачу стыпендыяльна-стажыровачнай групы ўваходзіць стварэнне асновы для рэалізацыі стыпендыяльных праграм і арганізацыі стажыровак у сельскагаспадарчым сектары. Па выніках форуму будзе прынята сумесная дэкларацыя.

Ірына Сазановіч

## Авіярэйс да Менска адмянілі

**З 25 мая авіякампанія «Гомельавія» унесла змяненні ў рэйс па маршруту «Гомель - Менск - Гродна», адмяніўшы яго другую частку - пералёт да Гродна.**

Унутраныя пасажырскія авіяперавозкі гамяльчане аднавілі з сярэдзіны красавіка, аднак вялікага попыту на білеты не было. У сярэднім паслугамі авіятараў карысталіся 25-30 пасажыраў (самалёт Ан-24 разлічаны на 48 месцаў), якія накіроўваліся з Гомеля ў Менск. Затым, з Менска ў Гродна, у самалёце заставалася, як правіла, не больш за тры пасажыры. На зваротным шляху сітуацыя была аналагічнай. Таму гомельскія авіяперавозчыкі былі вымушаны адмяніць вылет з Менска да Гродна.

Цяпер прапрацоўваецца варыянт для працягу гэтага рэйса з Менска. Магчыма, што з сярэдзіны чэрвеня гамяльчане пачнуць лятаць у Калінінград. Вывучаецца пытанне і аб адкрыцці рэйса да Масквы.

Ірына Шанцава

# Чатыры дні на тыдзень без гарачай вады!

**З першага чэрвеня ў Бераставіцы і некалькіх суседніх вёсках спыняецца штодзённая падача гарачай вады. Гарачая вада паводле рашэння мясцовага райвыканкама будзе даваацца ў дамы толькі па графіку, у пятніцу, суботу і нядзелю. Прынятае рашэнне будзе дзейнічаць да пачатку ацяпляльнага сезону, гэта азначае да 15 кастрычніка бягучага года.**

У выніку гэтага санстанцыя вымушана будзе закрыць дзіцячы садок, дзе на сённяшні дзень выхоўваецца каля 240 дзетак.

Паводле распараджэння Гарадзенскага аблвыканкама, раённыя ўлады маюць права не толькі падаваць гарачую ваду па графіку, але і наогул адключаць яе летам на тэрмін да дзесяці сутак.




Робіцца гэта, паводле словаў Уладзіміра Карповіча, кіраўніка Бераставіцкай камунальнай гаспадаркі, у сувязі з вялікай запазычанасцю раёна за газ і электраэнергію. Яна складае на сённяшні дзень 470-500 мільёнаў рублёў.

Галіна Ганчарова, намесніца старшыні Бераставіцкага райвыканкама, так тлумачыць жыхарам Бераставіцы пераход на абмежаваную падачу гарачай вады: «Расея скарачае нам пастаўкі газу, таму будзем цяпер эканоміць».

Уладзімір Карповіч не лічыць рашэнне наконт абмежавання падачы гарачай вады на 100 працэнтаў слушным, але, адпаведна ягоным словам, мінулым летам гарачая вада падавалася штодзённа, і ў выніку раён панес толькі страты.

Рашэнне аб спыненні падачы гарачай вады было прынята Бераставіцкімі ўладамі яшчэ 20 красавіка бягучага года, што і было паспяхова зроблена.

Аднак у раёне знаходзіцца некалькі спецыялізаваных установаў, у прыватнасці, бальніца і дзіцячы садок, за выхаванцамі якога патрэбен своеасаблівы догляд. Бацькі і выхавальнікі садка склалі заяву ў райвыканкам з просьбай аднавіць штодзённую падачу гарачай вады. І атрымалі адказ, што зрабіць выключэнне для дзіцячага садка немагчыма. Аднак, гарачую ваду ўсё ж уключылі і далі кіраўніцтву садка тэрмін да першага чэрвеня, каб усталяваць аўтаномны абагравальны кацёл.

Напярэдадні гэтай даты кацёл не быў усталяваны. І таму, як лічыць загадчыца садка Людміла Цыбулька, верагодней за ўсё санстанцыя прыме рашэнне закрыць садок.

Аднак, Людміла Цыбулька не пакідае надзеі, што адключэнне гарачай вады будзе адцягнута і ўдасца захаваць садок. Яна ўжо напісала адкрыты ліст у санстанцыю і райана.

У Бераставіцкім раёне такое няпланавае адключэнне гарачай вады адбываецца ўпершыню. Але гэта не адзіны раён у вобласці з падобнай праблемай. Аналагічная сітуацыя склалася ў суседніх Свіслацкім і Ваўкавыскім раёнах.

# Атрымай білетаў тачку...

**Толькі каля трох тысяч са ста тысяч латарэйных білетаў «Гарадніца 1» прададзена на сённяшні дзень у Гарадзенскай вобласці. Аднак, Міхаіл Шыцікаў, намеснік кіраўніка прадпрыемства «Гродналатарэя», лічыць гэта толькі пачаткам і ўпэўнены, што да 25 жніўня - дня, калі адбудзецца розыгрыш, усе білеты будуць прададзеныя.**

Міхаіл Шыцікаў даў слова, што ніякага падману з розыгрышам латарэйных білетаў не будзе. Ён таксама абвергнуў і інфармацыю пра тое, што білеты латарэі «Гарадніца 1» прымусова распаўсюджваюцца на прадпрыемствах:

- У статуце латарэі пазначана - распаўсюджванне білетаў толькі добраахвотнае. Канечне, дырэктары заводаў, могуць па сваёй ініцыятыве заклікаць альбо запатрабаваць у сваіх работнікаў набыць латарэйныя білеты.

Сам Міхаіл Шыцікаў яшчэ не набыў латарэйнага білета, але сказаў, што хутка набудзе з дзесятак.

Латарэя «Гарадніца 1» праводзіцца ў адпаведнасці з Указам Аляксандра Лукашэнкі для «дадатковага фінансавання сацыяльных патрэбаў». Аналагічныя латарэі праводзяцца ва ўсіх абласцях Беларусі.

Паводле статута латарэі, прызавы фонд складзе 45-50 працэнтаў ад усёй сумы. Колькасць і якасць прызоў залежыць ад колькасці прададзеных білетаў. Суперпрызамі павінны стаць адна ці дзве, у залежнасці ад прададзеных білетаў, дзвюхпакаёвыя кватэры ў Гродне. Паводле словаў Міхаіла Шыцікава, ключы ад кватэры пераможца атрымае не адразу. Пасля падвядзення вынікаў латарэі са «шчаслівчыкамі» будзе заключаная дамова на будоўлю кватэры.

Павал Мажэйка

# Рэгіёны падтрымалі Домаша

**Больш за 800 дэлегатаў - прадстаўнікоў 99 раёнаў краіны, якія ўзялі 26 траўня ў Менску ўдзел у З'ездзе грамадскасці рэгіёнаў Беларусі, заклікалі ўсё беларускае грамадства аб'яднацца дзеля будучыні нашай Бацькаўшчыны і падтрымаць Сямёна Домаша на будучых прэзідэнцкіх выбарах 2001 года.**

На З'ездзе выступіла больш за дзесяць прамоўцаў, сярод якіх былі прадстаўнікі ўсіх шасці абласцей Беларусі. Яны прааналізавалі сітуацыю ў эканоміцы, экалогіі, культуры ды іншых сферах жыццядзейнасці краіны.

Выступоўцы адзначылі, што пасля сямі гадоў праўлення Аляксандра Лукашэнкі становішча справаў літаральна ва ўсіх сферах катастрафічна пагоршылася.

- За апошнія сем гадоў у нашай краіне адбылося значнае пагаршэнне ўзроўню жыцця людзей. Улады, выкарыстоўваючы спецслужбы, органы ўнутраных справаў, суды і пракуратуру, вядуць жорсткую барацьбу з дэмакратычнымі грамадскімі арганізацыямі, прадпрымальніцтвам, апазіцыйнымі палітычнымі партыямі і недзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі. Але нават на такім палітычным фоне дэмакратычныя грамадскія і палітычныя арганізацыі з'яўляюцца актыўнай сілай, здольнай супрацьстаяць існуючаму рэжыму, прыняць актыўны ўдзел у выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і перамагчы, - падкрэслілі выступоўцы падчас З'езду.

Сярод прамоўцаў быў і магчымы кандыдат у Прэзідэнты Беларусі Сямён Домаш. Падчас 20-хвілiннай прамовы ён акрэсліў асноўныя эканамічныя, палітычныя, сацыяльныя і культурныя аспекты сваёй будучай перадвыбарнай праграмы.

**Мы палічылі даклад Сямёна Домаша грунтоўным і актуальным. Таму прапануем скарочаны варыянт выступа Сямёна Домаша на З'ездзе.**

(Працяг на стар. 2)

## За волю далі 150!

**855 тысяч беларускіх рублёў штрафу, што складае 150 мінімальных зарплат, павінен заплаціць лідэр гарадзенскай арганізацыі «Маладога Фронту» Вадзім Саранчукоў. Ён пакараны за арганізацыю ў Гродне несанкцыянаванага шэсця 25 сакавіка, у дзень гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Такую пастанову вынес 24 мая суддзя Ленінскага райсуда Гродна Дзмітрый Дземчанка.**

У судзе Вадзім Саранчукоў класіфікаваў тую падзею не як шэсце, а як арганізаваны паход да месца правядзення мітынгу. Па яго словах, міліцыянеры самі прымушалі людзей прайсці ў непасрэдны блізкасці ад гарадской паліклінікі, што з'яўляецца грубым парушэннем дэкрэта прэзідэнта. Аднак суддзя Дземчанка прызнаў гэтыя довады надуманымі. У канцы мінулага года лідэр гарадзенскага «Маладога Фронту» ужо атрымаў папярэджанне суда менавіта за арганізацыю несанкцыянаванага шэсця, што і стала вырашальным фактам у вынясенні прысуду 24 мая.

Павал Мажэйка

## Прафсаюз патрабуе аддаць унёскі

**Старшыня прафкама рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Гроднатэкстыль» Таццяна Адашкевіч заявіла аб намеры праз суд патрабаваць ад адміністрацыі прадпрыемства пералічэння прафсаюзных узносаў.**

Запазычанасць па ўзносах на «Гроднатэкстылі» перавысіла 2 мільёны рублёў, ці амаль паўтары тысячы даляраў ЗША. Непералічэнне прафсаюзных унёскаў адміністрацыя тлумачыць цяжкім эканамічным становішчам, якое ўскладнілася за апошні год. Катастрафічна вырас доўг за энергарэсурсы; у красавіку банкаўскі рахунак быў заблакіраваны, паколькі прадпрыемства не змагло заплаціць падаткі. Сёння «Гроднатэкстыль» загружаны работай толькі на трэць. Сярэдняя зарплата тут складае 47 тысяч рублёў, прычым апошні раз яе выплачвалі ў сакавіку.

Урэшце, як лічыць лідэр прафкама, нават у такой сітуацыі выплата прафсаюзных узносаў не можа быць цяжарам для кіраўніцтва. «300 тысяч рублёў у месяц - гэта два кавалкі тканіны, якую вырабляе прадпрыемства. Гэтыя грошы прадпрыемства не выратавалі, а работа прафкама аказалася паралізаванай», - заявіла Таццяна Адашкевіч.

Дакументы для звароту ў суд ужо гатовы. Ім будзе дадзены ход, калі ў бліжэйшы час адміністрацыя «Гараднэкстыля» не пералічыць прафсаюзныя ўзносы.

Наталля Кулагіна

**Перад Вамі трэці выпуск тэматычнай старонкі, які падрыхтаваны сумеснымі намаганнямі ПАГОНІ ды грамадскага аб'яднання «Бацькаўшчына» ў межах агульнага праекта «Моладзь і выбары: галасуй альбо прайграеш».**




# Новы Робін Гуд не прыйдзе, таму зрабі СВОЙ выбар!

**Постсавецкая моладзь на Беларусі, за рэдкімі выключэннямі, выхавалася збольшага індыферэнтнай (абыякавай) да ўсялякіх выбараў і, нават не падазраючы таго, фактычна акрэсліла сваю грамадзянскую пазіцыю як пасіўнае ігнараванне тутэйшага рэжыму. Гэтая моладзь, не абдзеленая розумам і талентам, нават не падазрае, што можа выбраць для роднай краіны лепшы лёс. Дзеля гэтага варта скарыстаць СВАЁ гарантаванае законам «права голасу».**


Юры Гумянюк

У сённяшняй перадвыбарнай сітуацыі ўжо многія маладыя людзі ўсведамляюць, што маўчанне будзе лічыцца не золатам, а недапрэлым гноем. Таму прагнуць выказацца «ў поўны голас». Гэта лепш, чым засунуць банан у рот і, не пракаўтнуўшы, мармытаць, як алігафрэн, нешта няўцямнае. Хаця для значнай часткі грамадзянаў смактанне банана з'яўляецца сімвалам суверэнітэту і «нармальнасцю», пра якую ўсе гавораць і да якой трэба імкнуцца.

Мне ж «нармальнасць» уяўляецца нечым сярэднеарыфметычным паміж Развіццём і Дэградацыяй. «Нармальныя людзі» ў таталітарным грамадстве заўсёды складалі безабліччную шэрую масу, якая недалюблівала вышэйшых у сваім духоўна-інтэлектуальным развіцці талентаў і геніяў ды пасмейвалася з алігафрэнаў і дэбілаў. Улада выкарыстоўвала ў сваіх інтарэсах зграйны інстынкт «нармальных людзей» супраць разумных, але нязгодных з рэжымам талентаў і геніяў. Гэтых «выскачак» яна ставіла ў адзіны шэраг з непаўнавартаснымі, называючы і тых і другіх «псіхамі». Цяперашняя ўлада на Беларусі лічыць апазіцыянераў людзьмі «ненармальнымі» толькі за тое, што яны маюць іншае меркаванне і не з'яўляюцца статкам паслухмяных бараноў.

Моладзь сёння мае хаця і не шыкоўную, але магчымасць выбару. Міфічны айчынны Робін Гуд, на якога раней спадзяваліся нашыя бацькі, на Беларусі падчас прэзідэнцкіх выбараў, напэўна, не аб'явіцца. Не дачакаемся мы заўтра і другога Прышэсця Хрыстовага. Затое маем перад сабой зашмальцаваную калоду даўноператасаваных посткамуністычных картаў. Ёсць у калодзе «пяціадзіны» туз, пара-тройка краплёных шасцёрак і валетаў, ёсць і дама з прозвішчам даўно пабітага казырнага караля...

Што ж, прадбачыцца цікавая гульня! Цягніце з дапамогай выбарчых бюлетэняў карты, спадары! Ад вашага імпэту залежыць: ці будзе Беларусь сапраўдным цэнтрам Еўропы, ці чорнай дзірой на вясёлкавай мапе цывілізаванага кантыненту.

**Юры Гумянюк**

**Маладыя людзі ўспрынялі новую старонку газеты з крытыкай, але адначасова і з надзеяй. У гэтым выпуску старонкі мы друкуем допісы школьніка-васьмікласніка адной з гарадзенскіх школ. На восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах, ён яшчэ не будуць мець магчымасці аддаць свой голас, аднак заставацца ў баку ад гэтай падзеі, як пазначана ў лісце, ён не жадае.**

# У чым сіла? У праўдзе!?

Такім пытаннем задаваўся герой кінастужкі «Брат-2», але яго можна было б задаць спадару Лукашэнку. Было б вельмі цікава паслухаць!



Безумоўна, я не маю магчымасці спытаць пра гэта Аляксандра Рыгоравіча. Але калі праслухаць усе яго інтэрв'ю-абяцанні ў апошнія тыдні, становіцца зразумела, што ён прытрымліваецца лозунгу «ў праўдзе сіла». Але праўда бывае розная.

А якая яна, праўда Лукашэнкі? Апошнім часам ён па мажлівасці, калі не гаворыць, то прытрымліваецца яе. Аляксандр Лукашэнка крытыкуе дзеянні міліцыі, якую не вельмі любіць народ, кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, да іх людзі таксама ставяцца без павагі.

Гэтымі дзеяннямі ён заваюе прыхільнасць «некалькіх людзей», але ўсё гэта «брудныя справы». Паглядзіце на каляндар - хутка выбары!

Каб гэта мог зразумець нават школьнік, дзеянні Лукашэнкі можна параўнаць з тым, як двоечнік ў астатнія дні навучальнага года ўпрошвае настаўніка, каб той паставіў яму выдатную адзнаку, пры гэтым абяцае, што ён будзе добра вучыцца і ў наступнай чвэрці, будзе выдатнікам. А потым - самі ведаеце што...

Ведайце! Вам усім давядзецца «ставіць адзнаку» Лукашэнку ў верасні!

**Аляксандр Навумовіч**

СКАНДАЛ

# Подпісы за Лукашэнку будуць збіраць пад прымусам?

**Гарадзенскія чыноўнікі распачалі стварэнне ініцыятыўных групаў у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі. На прадпрыемствах, у навучальных установах у загадным парадку складаюцца спісы супрацоўнікаў, якія мусяць збіраць подпісы ў падтрымку дзеючага кіраўніка дзяржавы.**

Для ўсіх ініцыятыўных групаў існуюць «нормы збору». Кожны сельсавет, да прыкладу, павінен сабраць па 200 подпісаў за Аляксандра Рыгоравіча. Як стала вядома ПАГОНІ, такія прымусова-ініцыятыўныя групы ўжо створаныя на вытворчым аб'яднанні «Азот», на пальчаткавай фабрыцы «Акцэнт», у політэхнічным каледжы.

- Удзел адміністрацыі арганізацыяў у зборы подпісаў, а таксама прымусовы збор подпісаў, з'яўляюцца грубым парушэннем Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь (артыкул 61), - каментуе сітуацыю Аляксандр Антанюк, праваабаронца Беларускага Хельсінкскага камітэта. - Кандыдат у прэзідэнты не мае права выкарыстоўваць перавагі свайго службовага становішча і прыцягваць да працы выхавання асобаў, якія знаходзяцца ў ягоным падначаленні. Тым больш, як сведчыць артыкул 73 Выбарчага кодэксу, нельга ствараць ніякія ініцыятыўныя групы ў працоўны час.

**Ул.інф.**

ПРАВА НА ГОЛАС

# Удзельнічаем у выбарах з 18-ці гадоў

**Адпаведна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Выбарчаму кодэксу РБ, выбарчае права маюць грамадзяне Беларусі, якія дасягнуць на дзень выбараў 18-ці гадоў. Гэта значыць, што з 18-ці гадоў грамадзянін Беларусі мае права не толькі ўдзельнічаць у галасаванні, але і:**

- права ўдзельнічаць у фармаванні выбарчых органаў у вылучэнні кандыдата;
- права быць сябрам ініцыятыўнай групы па збору подпісаў для вылучэння ў кандыдаты ці быць даверанай асобай кандыдата;
- права весці передвыбарную агітацыю, аспрэчваць рашэнне выбарчых камісіяў, вынікі выбараў і гэтак далей.

У выпадку другога туру галасавання права ўдзельнічаць у галасаванні маюць грамадзяне, якія не дасягнулі 18-ці гадоў да першага туру галасавання, але дасягнулі гэтага ўзросту да другога туру галасавання.

У Бразіліі, Кубе, Іране, Нікарагуа выбарчымі правамі грамадзяне валодаюць з 16-ці гадоў, у Аўстрыі - з 19-ці, у Японіі - з 20-ці гадоў. Ва ўсіх гэтых дзяржавах незалежна ад узросту, з якога можна актыўна прымаць удзел у выбарах, моладзь усё роўна ў іх удзельнічае, чаго не скажаш пра маладых беларускіх выбаршчыкаў. Напрыклад, у Беларусі ў галасаванні ўдзельнічае чвэрць выбаршчыкаў ва ўзросце ад 18-ці да 25-ці гадоў, тады як актыўнасць беларускіх выбаршчыкаў ва ўзросце ад 60-ці гадоў і старэй больш за 80 працэнтаў.

На маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі ў выпадку захавання падобных тэндэнцыяў будучыню Рэспублікі Беларусь зноў вызначаць пенсіянеры.

Усе на выбары! Мы самі вызначым шлях развіцця Беларусі на будучыя гады і дзесяцігоддзі!

**Сяргей Міронаў**

# Як рыхтуюцца да выбараў кандыдаты ў кандыдаты



**Сяргей Гайдукевіч:** Самае галоўнае, адпаведна словам спадара Гайдукевіча, сёння ён мае 5000 чалавек у ініцыятыўных групах.

- Наша задача на дадзены момант - скараціць іх колькасць да 2-2,5 тысячы чалавек. Таму што большай колькасцю чалавек страшна цяжка кіраваць. Уявіце сабе: кожнаму патрэбна папачка, улётка з маім партрэтам і гэтак далей.

На Гарадзеншчыне, адзначыў Сяргей Гайдукевіч, ягоныя паплечнікі стварылі ініцыятыўную групу з 250 чалавек, з двума цэнтрамі ў Гродне і ў Лідзе.

- Ёсць спецыфіка паміж заходняй і ўсходняй часткамі Гарадзенскай вобласці, - лічыць спадар Гайдукевіч. - Заходні электарат выступае за непахісны суверэнітэт Беларусі, ў той час як жыхары ўсходняй Гарадзеншчыны падтрымліваюць ідэю суверэннай Беларусі ў саюзе з Расеяй.

У аўторак Сяргей Гайдукевіч ад'ехаў у Маскву. Ён плануе правесці шэраг дзелавых сустрэчаў. З кім канкрэтна - не паведаміў, адзначыў толькі «поўнае непрыманне Лукашэнкі ў палітычных колах Расеі». Праграма ягонага знаходжання ў Маскве, паводле ягоных словаў, ніяк не можа перакрыжавацца з праграмай іншага кандыдата ў кандыдаты на Прэзідэнта, Уладзіміра Ганчарыка, які таксама знаходзіцца ў расейскай сталіцы. Адпаведна словам спадара Гайдукевіча, «Ганчарык зараз - вораг Расеі» і не мае доступу ў тыя расейскія структуры, у якія свабодна ўваходзіць спадар Гайдукевіч. Гэта тычыцца і ўсёй апазіцыйнай пяцёркі лідараў ці жабракоў, як іх называе спадар Гайдукевіч.

**Уладзімір Ганчарык**



Дзмітрый Верашчагін, прэс-сакратар спадара Ганчарыка, упэўнены, што ў групе падтрымкі спадара Ганчарыка «сітуацыя значна лепей, чым у іншых». Перш за ўсё таму, што яны маюць «магутную грамадскую арганізацыю - прафсаюз». І, нават, калі толькі адна пятая іх частка пагодзіцца працаваць у ініцыятыўных групах, гэта «будзе аграмадная колькасць людзей».



**Павал Казлоўскі**

Паводле словаў спадара Казлоўскага, ён зараз актыўна ездзіць па Беларусі. Праўда, агітацыяй па зразумелых прычынах не займаецца.

- Як прэзідэнт Фонда рэабілітацыі сем'яў былых вайскоўцаў... я вывучаю праблемы сем'яў вайскоўцаў, праводжу прыватныя, неафіцыйныя сустрэчы з людзьмі, якія зоймуцца стварэннем ініцыятыўных групаў па збору подпісаў.

На мінулым тыдні Павал Казлоўскі два дні правёў у Гродне. 26 траўня ён быў запрошаны на З'езд прадстаўнікоў грамадскасці рэгіянальнай Беларусі. Аднак не ўдзельнічаў у ім.

- Гэта быў з'езд у падтрымку Домаша, таму не лагічна было браць у ім удзел, - заявіў спадар Казлоўскі.

У аўторак сарваўся выступ Паўла Казлоўскага на З'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён пракаментаваў гэта наступным чынам:

- Мяне, як і некаторых іншых магчымых кандыдатаў у прэзідэнты, запрасіў на З'езд старшыня Саюза пісьменнікаў спадар Някляеў. Але арганізацыйны камітэт сходу вырашыў нікога не запрашаць. Думаю, на іх націснула ўлада. Акрамя гэтага, шмат пісьменнікаў папросту працуюць на ўладу.

**Сяргей Калякін**



Асноўную праблему на сёння ў падрыхтоўцы да выбараў кіраўнікі групы падтрымкі бачаць у тым, што пачалі дзейнічаць ініцыятыўныя групы Аляксандра Лукашэнкі.

- Нам стала вядома, - гаворыць сакратар Цэнтральнага камітэта ПКБ Алена Скрыган, - што чалавек, які жадае ўступіць у ініцыятыўную групу, мусіць напісаць заяву, што ён уступае ў яе добраахвотна. Пры гэтым павінны прысутнічаць два сведкі. Выбарчае заканадаўства гэтага не патрабуе. На гэтай падставе ў астатніх кандыдатаў пры рэгістрацыі ў Цэнтрвыбаркаме могуць узнікнуць праблемы.

Асновай перадвыбарнай праграмы Сяргея Калякіна стане платформа ПКБ, прынятая на надзвычайным Пленуме партыі.



- Калі адзіным кандыдатам будзе не Сяргей Калякін, то мы будзем разглядаць пытанне аб супадзенні асноўных пунктаў праграмы кандыдата з платформай КПБ. Калі такога супадзення не будзе, зразумела, што партыя не стане падтрымліваць такога кандыдата.

**Зянон Пазьняк**

Да афіцыйнага абвяшчэння выбараў, заявіў ПАГОНІ адзін з лідараў КХП БНФ Сяргей Папкоў, група падтрымкі Зянона Пазьняка не будзе даваць прэсе звестак.

**Збірала інфармацыю Алеся Сідлярэвіч**

# Галасуйце па тэлефоне!

**Выбары яшчэ не абвешчаныя, але на старонках нашай газеты вы можаце галасаваць ужо сёння!**

Вы можаце аддаць свой голас кандыдату, за якога вы хутчэй за ўсё прагаласуеце на восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах. Вызначце таксама аднаго кандыдата, за якога вы не будзеце галасаваць ні ў якім выпадку.

Галасуйце па тэлефоне 72-37-14 з 10.00 да 18.00 штодзень, акрамя выхадных, і ў любы час сутак пакідайце інфармацыю на пэйджар 73-00-00 абаненту 95684.

# Правасуддзе па-берастаўіцку

**У панядзелак у раённым судзе Берастаўіцы разглядалася адміністрацыйная справа ў дачыненні да айца Яна Спасюка. Святар, які належыць да Беларускай Народнай Праваслаўнай Царквы, абвінавачваўся ў дробным хуліганстве. Суддзя Наталля Казакевіч прызнала бацюшку вінаватым і вынесла яму вусную заўвагу.**

21 траўня па запрашэнню вяскоўцаў айцец Іаан прыехаў да капліцы ў вёсцы Рудаўляны, каб правесці набажэнства з нагоды свята Іаана Багаслова. Але першымі да капліцы прыехалі святары Рускай праваслаўнай царквы. Паводле словаў шматлікіх сведак, іх суправаджалі міліцыянты з відэакамерамі. Іаану Спасюку не дазволілі правіць службу, аднак яго пачалі абараняць вернікі. У выніку быў складзены адміністрацыйны пратакол на айца Іаана і на матушку Алену.

У панядзелак у суд з“явілася больш за дзесятак сведак з боку Спасюка - бабулек і дзядулек вельмі сталага веку.

- Людзі ахнулі - ніколі такога не было, каб бацюшку ў суд цягалі, - са слязьмі гаворыць Марыя Андрушэвіч, жыхарка вёскі Рудаўляны. - Мы пакрыўдзілі Яна Багаслова. Што гэта будзе?..

Суд пачаўся з таго, што суддзя Наталля Казакевіч адмовіла святару ў хадайніцтве, каб у судзе яго прадстаўляў грамадскі абаронца, прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага Камітэта Аляксандр Антанюк. Потым са словамі, што «гэта працэс палітычны»(!) з залы суда былі выдаленыя журналісты - карэспандэнты ПАГОНІ і Радыё Свабода. Надалей, у экстазе ад пачуцця ўсеўладдзя, суддзя выдаліла з залы і пяцёх слухачоў, што цікавіліся ходам справы.

Што адбывалася за дзвярыма судовай залы, для прэсы засталося таямніцай. Падчас перапынку прадстаўнік БХК Аляксандр Антанюк так пракаментаваў судовы «беспредел»:

- Відаць, для берастаўіцкіх суддзяў закон не пісаны. Правасуддзе па-берастаўіцку - гэта жах, кашмар! Парушаны Закон аб друку, Закон аб галоснасці ды адкрытасці судовых пасяджэнняў, суддзя пазбаўляла Яна Спасюка слова, паводзіла сябе надзвычай некарэктна. Гэта было падобна да пасяджэння «сталінскай тройкі» ў адной асобе. Мы будзем абскарджваць любое рашэнне суда, якім бы яно ні было.

А пад дзвярыма судовай залы не сціхалі эмоцыі.

- Мы ходзім да айца Іаана, таму што ён нам добры. Нябожчыка адпявае ласкава, міла...

- Ён не глядзіць, колькі дадуць за пахаванне ці хрэсьбіны, і дарма служыць. А памрэ чалавек, пойдзеш да бацюшкі ў Клепачы ці да другога - дай 40 тысяч ці 30...

- Гэта наша капліца, нашыя бацькі і дзяды яе будавалі - чаму нас з яе праганяюць?

- Святары ўладу дзеляць і грошы, таму і не даюць Айцу Іаану служыць, - дадае сведка, жанчына сярэдніх гадоў Валянціна Янушкевіч. - Як па-нашаму, то хай разам усе служаць, а не прыпісваюць нас да такога-та прыходу.

Праціўнікі Яна Спасюка тым часам запалохваюць вернікаў, што ходзяць да «няправільнага бацюшкі» пеклам і вечным агнём. Ну чым ні рэлігійная вайна мясцовага маштабу?

Пасля трохгадзіннага працэсу быў абвешчаны прысуд. Яна Спасюка прызналі вінаватым у тым, што ён «перашкаджаў у правядзенні рэлігійнага абраду праваслаўнай царквы. Спасюку абвесцілі вусную заўвагу. Матушка Алена па суду атрымала аналагічнае пакаранне.

Аднак, справа будзе мець працяг. Ян Спасюк бліжэйшым часам мае падаць скаргу на дзеянні суддзі.

**Алена Сіневіч**

# WWW.DOMASH.BY

**Больш за 1000 чалавек ужо наведала сайт Сямёна Домаша, які дэбютаваў у Інтэрнеце 26 траўня. Сайт магчымага кандыдата ў Прэзідэнты Беларусі мае назву: «Сямён Домаш. З павагай да майго народа».**

Вэб-дызайн інфармацыйнай старонкі распрацаваны Андрэем Пейцам. Старонка мае беларускую, расейскую ды ангельскую версіі і ўключае ў сябе дзесяць раздзелаў. Адкрываюць старонку «Навіны» грамадска-палітычнага характару, падрыхтаваныя на аснове матэрыялаў інфармацыйных агенцтваў. Затым падаецца «Біяграфія», «Фотаальбом», раздзелы «Прэса аб Домашу», «Інтэрв'ю», «Публікацыі», «Сацыялогія», «Пра Домаша гавораць», «Зваротная сувязь» і «Vox populi».

Знайсці старонку патэнцыйнага прэтэндэнта можна па адрасе www.domash.by.

**Ул.інф.**

# Эканамісты вучацца

**Лідар Беларускага прадстаўніцтва Сусветнага Банка Сяргей Кулік адкрые сваім дакладам міжнародную канферэнцыю «Развіццё інфармацыйнага забеспячэння эканамічнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», што пройдзе 31 траўня - 1 чэрвеня ў Гродне.**

Арганізатарамі гэтага праекту сталі гарадзенскі Моладзевы цэнтр Бізнесу і даследаванняў сумесна з ГрДзУ пры падтрымцы Сусветнага Банка ды іншых грамадскіх ініцыятываў ды бізнес-структураў. За мэту мерапрыемства бярэцца падвышэнне якасці эканамічнай адукацыі ў Беларусі. Пра маштаб канферэнцыі сведчыць тое, што падчас яе працы будуць адначасова працаваць некалькі секцыяў у медуніверсітэце і Доме навукі і тэхнікі. Будуць як тэарэтычныя выкладкі, так і мастэр-класы, прэзентацыі, дзелавыя гульні.

Удзел у канферэнцыі возьмуць прадстаўнікі акадэмічных колаў і недзяржаўных арганізацыяў з Беларусі, Украіны, Малдовы, Кыргызстана.

# Чаму не пасмяяцца, калі люстра крывое

**У мінулую нядзелю ў гарадскім парку адкрыўся новы атракцыён - «Пакой смеху».**

Цяпер дакладна, як у адной з серыяў мультфільма пра Зайца і Ваўка «Ну, погоди!», дарослыя і дзеці рагочуць над сваімі адлюстраваннямі ў крывых люстрах. Тых люстраў у «смешным пакоі» больш за дзесятак, і паказваюць яны тоўсценькіх малышоў даўгалыгімі бамбізамі, а спартыўных бацькоў - пузаценькімі гномамі. Таксама смешна пабачыць сваю галаву падобнай да грушы, а замест рук і ног - нязвыклыя крывулькі.

Каштуе новы атракцыён 400 рублёў - гэта пакуль што адна з самых танных забаваў у гарадзенскім парку.

**Алена Сіневіч**

# Хворыя прызыўнікі – пагроза НАТО

**Звыш 60 працэнтаў прызыўнікоў прыходзіць на медкамісію з хранічнымі захворваннямі.**

У самым разгары прызыўная кампанія ~~на вясенне-летні~~ прызыў у войска. З гэтай нагоды наш карэспандэнт падаўся ў гарваенкамат. Падыходжу да галоўнага ўваходу. Насустрач мне выходзіць малады хлопец невысокага росту. Пытаюся ў яго:

- Ну што, прайшоў медкамісію?

- Так, хутка, за дзве гадзіны. Але ж, на жаль, я прыдатны.

- А чаму ў войска не хочаш ісці? Адчуваеш страх перад ім?

- Ёсць нейкая боязь. Па-першае, перад невядомым, а па-другое, запруць куды-небудзь у Печы - і пакутуй там паўтара года.

Падымаюся на другі паверх, дзе маладзёны праходзяць медычнае абследаванне. У вузкім доўгім калідорчыку біткам набіта прызыўнікоў у майтках. Самыя вялікія чэргі да тэрапеўта, псіхатэрапеўта і хірурга. Падаецца, гэта самыя папулярныя дактары.

Паводле словаў спецыяльнага ўрача другога аддзялення Таццяны Аляксандраўны Заеркі, «не трэба здзіўляцца, што самыя вялікія чэргі менавіта да гэтых дактароў»:

- Першае месца сярод паталогіі займае хірургічная паталогія, другое - тэрапеўтычная, трэцяе - псіхіятрычная. Увогуле, здароўе маладых людзей штогод пагаршаецца. Вартых без абмежаванняў усё меней. Звыш 60-ці працэнтаў моладзі прыходзіць на прызыўную камімію, маючы хранічныя захворванні.

Існуе пяць ступеняў здароўя прызыўнікоў. Калі хлопец мае першыя чатыры ступені, ён прыдатны да службы ва Узброеных Сілах Беларусі. Ну а калі юнак мае пятую ступень стану здароўя са «значнымі» абмежаваннямі, то прызыўная камісія вырашае, ці адправіць гэтага чалавека ў войска, ці даць яму



Нашая сіла – ў плаўках!

адтэрміноўку і на працягу шасці месяцаў наглядаць за ім. Вельмі складана абследаваць будучых салдатаў. Бо ў горадзе, апроч 3-й паліклінікі нідзе на працуе флюараграфічны кабінет. А без флюарографа дактары не маюць права правяраць прызыўнікоў. Вердыкт - прыдатны ці не прыдатны чалавек ў войска, выносіцца на аснове акту лячэбных установаў.

Падыходжу да хлопца, разам з якім спускаюся на лесвічную пляцоўку.

- Мяне завуць Максім Крашнік. Я скончыў у гэтым годзе політэхнічны каледж і хачу паступаць вучыцца далей, а з адтэрміноўкай вельмі цяжка. І ўвогуле, што гэта за войска такое? Кормяць кепска, дзедаўшчына, а яшчэ няшчасныя выпадкі здараюцца. Я лічу, што трэба мяняць гэтую адміраючую сістэму, ды не толькі яе. Усё трэба мяняць: уладу, дзяржаўны лад і гэтак далей. Увесь гэты бардак ужо ў горле сядзіць!

Заходжу да намесніка камісара гарадскога ваенкамата падпалкоўніка Ігара Зданчука:

- Калі гаварыць пра адтэрміноўку на паступленне хлопцаў у ВНУ, то мы разглядаем такія справы па заяве бацькоў прызыўніка і выносім на рашэнне прызыўной камісіі пад кіраўніцтвам Яўгена Жабруна. Па асобах, якія ўхіляюцца ад службы ў войску, скажу, што гэтыя лічбы і не растуць, і не меншаюць. Кожны год прыкладна адна і тая ж колькасць прызыўнікоў ухіляецца ад службы ў войску. Што датычыцца службы ў элітных войсках (памежныя, унутраныя, спецыяльныя), то ў гэтыя падраздзяленні не бяруць хлопцаў са «значнымі абмежаваннямі».

Калі прызыўнік не згодны з рашэннем гарадской медкамісіі, ён можа звярнуцца ў абласную, якая пацвердзіць альбо не пацвердзіць рашэнне медычнай камісіі. Акрамя абласной, ён можа звярнуцца ў Цэнтральную прызыўную камісію, што знаходзіцца ў Менску.

**Алесь Зарэмбюк**

# Ушануйма Ажэшку!

**Шостага чэрвеня ў нашым горадзе адбудуцца ўрачыстасці з нагоды 160-годдзя з дня нараджэння вядомай пісьменніцы Элізы Ажэшкі, арганізаваныя Камітэтам яе памяці пры Саюзе палякаў Беларусі ды абласной бібліятэкай імя Карскага.**

А 16-й гадзіне ў доме, дзе жыла Эліза Ажэшка, адкрыецца тэматычная экспазіцыя, прысвечаная яе жыццю і творчасці. Пасля адбудзецца ўскладанне кветак на магіле пісьменніцы на Старых каталіцкіх могілках на вуліцы Антонава. А 18-й гадзіне ў Гарадскім доме культуры пройдзе канцэрт беларускіх і польскіх ансамбляў. У імпрэзах маюць прыняць удзел гарадзенскія ўлады і вядомыя дзеячы навукі і культуры з Польшчы.

**Адам Гонар**

# Забойцам не даруюць

**Справа аб забойствах чатырох маладых дзяўчатаў, што былі ўчыненыя мінулай вясной і летам, якую падняла нашая газета, ў чарговы раз прыпыненая.**

Па нашых звестках, следства на гэты час не вызначыла ніводнага падазронага. Пракуратура спасылаецца на адсутнасць рэчавых доказаў, на падставе якіх можна будаваць расследаванне. Апытана ўжо некалькі соцень сведак, аднак да нейкіх дакладных вынікаў следства прыйсці пакуль не можа. Следчая работа ўскладненая тымі абставінамі, што першыя паўгода справы аб гібелі Вольгі Гарашчук і Вольгі Шор ішлі па артыкуле аб самагубстве, і на той час адпаведна вялося расследаванне.

Нагадаем, што справы чатырох дзяўчатаў - Вольгі Гарашчук, Люды Кодзік, Вольгі Шор і Юліі Яцышынай былі аб'яднаныя ў адну, і цяпер шматтомная справа была кваліфікаваная па артыкуле аб забойстве толькі ў лютым, пасля звароту бацькоў загінулых да грамадскасці праз прэсу. У пракуратуры паведамляюць, што гэты час быў неабходны для збору фактаў, якія гаварылі б пра агульныя абставіны вышэйназваных справаў.

Святлана Шор, маці Вольгі Шор, да гэтай пары не можа змірыцца з гібеллю дачкі пры абставінах, якія дагэтуль застаюцца нявысветленымі.

- Магчыма, калі б з самага пачатку раскрылі забойства нашай дачкі, то астатнія засталіся б жывымі, - гаворыць яна.

Аднак, гаворкі пра спыненне аператыўнай работы па раскрыцці злачынства не ідзе. Работа працягваецца. Як нас запэўнілі ў пракуратуры, усё неабходнае будзе зроблена.

# Бенефіс Пятрушкі

**У нядзелю ў гарадскім парку імя Жылібера Гарадзенскі тэатр лялек святкаваў сваё 20-годдзе.**

Малышню бясплатна пракацілі на атракцыёне-паравозіку ад лялечнага тэатра да канцэртнай пляцоўкі. Імпрэза атрымалася цікавай для дзяцей - былі віктарыны з прызамі, выступіў дзіцячы лялечны тэатр «Балаганчык».

Падобныя вулічныя тэатралізаваныя прадстаўленні для нас - рэдкасць, і «бенефіс» ГТЛ прайшоў пры аншлагу на парках лавачках вакол пляцоўкі. Аднак свярбіць адно пытанне: чаму юбілей нашага роднага гарадзенскага, беларускага лялечнага тэатра вялі героі рускіх казак Пятрушка, Ямеля, Васіліса Прыўкрасная? А дзе нашыя Каток Залаты Лабок, Дзед Барадзед, Іван-Удовін Сын? Ці няхай бы разам вялі, суседзі ўсё-ткі. Прыкра, што не запрасілі на тэатральны юбілей нашых герояў, знаёмых нам з бабуліных казак.

**Алена Сіневіч**

# Самаранч арганізаваў «Прабег міру» ў Пышках

**27 траўня, ужо чацвёрты год запар, у гарадзенскім лясным масіве Пышкі прайшоў "Прабег міру". Ён адбыўся па ініцыятыве прэзідэнта міжнароднага Алімпійскага камітэта Хуана Антоніо Самаранча ва ўсіх краінах свету у межах «Алімпійскіх дзён бегу».**

Як адзначылі арганізатары гэтага мерапрыемства, "Прабег міру" з кожным годам набывае ўсё большую папулярнасць.

- Калі ў першым такім прабегу прыняло ўдзел 300 спарцменаў, - гаворыць сакратар спаборніцтваў Алег Андрэйчык, - то сёлета - больш за тысячу. Пашырылася таксама геаграфічнае прадстаўніцтва атлетаў з нашай краіны. Удзельнічалі ў спаборніцтвах і атлеты з прыгранічнай Польшчы.

Спаборніцтвы праходзілі на дыстанцыях ад 100 метраў да 10-ці кіламетраў у розных узроставых катэгорыях. У абсалютным першынстве ў мужчынаў вылучыўся Андрэй Ліннік, другім і трэцім сталі гарадзенцы Вячаслаў Чэчун і Павал Зарэцкі, у жанчынаў - першыя два месцы былі за Наталлямі Яхімовіч і Дружбіной, трэцяе - за гарадзенкай Наталляй Слюньковай.

На самай прэстыжнай дыстанцыі 10 000 метраў амаль ва ўсіх узростах адзначыліся гарадзенцы. Ва ўзроставай катэгорыі 40-44 гадоў першым прыбег да фінішу Мікалай Ліcоцкі, у катэгорыі 45-50 - Антаніна Гінтаўт, Мікалай Бабко (55-59). Другія месцы занялі Мікалай Андрэеў (узроставая катэгорыя 50-54), Валерый Смародзін (55-59), Рыта Няміра (35-39), Ліда Завіноўская (50-54), трэція - Юзэф Няміра (40-44) ды Анатоль Бабоў (60 і старэйшыя).

Усяго ўзнагародзілі каля 200 спарцменаў.

# «Рытм» скрыжуе клюшкі ў Галандыі за чэмпіёнства

**У аўторак гарадзенская жаночая каманда па хакею на траве «Рытм» адправілася ў галандскі горад Хертогенбош, дзе з першага па чацвёртае чэрвеня возьме ўдзел у Кубку еўрапейскіх чэмпіёнаў у дывізіёне «А».**

Трэці год запар нязменны чэмпіён Беларусі «Рытм» будзе прадстаўляць нашу краіну ў прэстыжным міжнародным турніры. Гарадзенкі ніколі не мелі аніякіх праблемаў ва ўнутраным чэмпіянаце, таму міжнародныя спаборніцтвы даюць магчымасць «Рытму» дэманстраваць сваю сапраўдную моц, ды павышаць спартовае майстэрства.

Кубак чэмпіёнаў паміж сабой разыграюць восем клубаў. Яны на першым этапе падзеленыя на дзве групы па чатыры каманды. Гарадзенкі складуць квартэтзт разам з камандамі з Гішпаніі, Шатландыі ды гаспадынямі турніру галандкамі.

У групавых турнірах вызначацца па дзве лепшыя каманды, якія пазмагаюцца за ганаровы трафеі. Астатнія чатыры каманды ў стыкавых гульнях вызначаць дзве дружыны, якія пакінуць дывізіён «А».

У мінулым годзе ў Кубку чэмпіёнаў гарадзенкі занялі пятае месца. Задача ўдзелу ў леташнім розыгрышы Кубка, паводле словаў галоўнага трэнера «Рытму» **Ніны Дашко**, «заняць месца не ніжэй, чым у мінулым годзе».

*- Спадарыня Ніна, ці ўвойдзе «Рытм» у тройку «прызёраў»?*

- Цяжка сказаць. Тры нашыя вядучыя хакеісткі Ірына Тымуль, Эльвіра Камісарава ды Ірына Казачок пасля траўмы, паступова пачалі набіраць сваю былую форму. Яны нават не ва ўсіх гульнях другога тура нацыянальнага першынства прымалі ўдзел. А ў гульні з камандай «Вікторыя» я была вымушаная трымаць іх на лаўцы запасных, каб не пагоршыць іх здароўе.

*- Акрамя траўмаў вядучых хакеістак, былі яшчэ складанасці перад падрыхтоўкай да гэтага адказнага турніра?*

- Складанасцяў хапае. Але ж галоўная наша праблема - адсутнасць у Гродне сучаснага поля для хакея на траве. У Гродне мы трэніруемся і гуляем на полі, якасць якога не ідзе ні ў якае параўнанне з тым полем, на якім мы будзем гуляць у Галандыі. Але ж, нягледзячы на ўсё - будзем змагацца.

Апошнім выпрабаваннем перад Кубкам чэмпіёнаў для «Рытму» быў другі тур чэмпіянату Беларусі. Яго гарадзенкі адгулялі на адным уздыху. У пяці гульнях «Рытм» атрымаў пяць перамог з агульнай розніцай закінутых і прапушчаных мячоў - 30:1.

**Табліца Чэмпіяната Беларусі**

| | Гульні | Перам. | Нічые | Паразы | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Рытм | 10 | 10 | 0 | 0 | 77-2 | 30 |
| Вікторыя-ШВСМ | 10 | 7 | 1 | 2 | 26-8 | 22 |
| ВАР | 10 | 4 | 3 | 3 | 22-28 | 15 |
| Тэкстыльшчык | 10 | 3 | 2 | 5 | 14-29 | 11 |
| Лянок | 10 | 1 | 2 | 7 | 5-36 | 5 |
| ДзЮШС | 10 | 1 | 0 | 9 | 5-45 | 3 |

# А пераможцы – ў Расею!

**З 21-га па 24-е траўня на базе гарадзенскага аздараўленчага лагера «Купалінка» праходзіў 29-ы рэспубліканскі злёт атрадаў юных інспектараў дарожнага руху.**

На спаборніцтвы прыехала восем камандаў: пераможцы абласных спаборніцтваў, каманда горада Менска і адна каманда юных інспектараў з расейскага Краснадарскага краю. Ад Гарадзенскай вобласці ўдзельнічала каманда навагрудскай школы №4. У складзе кожнай каманды было па чатыры хлопцы і дзяўчыны, ва ўзросце не больш чым 15 гадоў.

Спаборніцтвы падзяляліся на некалькі этапаў. На першым этапе юныя інспектары за 15 хвілінаў павінны былі адказаць на 10 пытанняў па правілах дарожнага руху. На другім і трэцім этапах кожны ўдзельнік каманды дэманстраваў сваё майстэрства фігурнага важджэння на веласіпедзе і практычнае валоданне двухколавым. На чацвёртым - дзяўчаты і юнакі спрачаліся ў выкананні аперацыяў зборкі-разборкі велатэхнікі, і на пятым этапе юным інспектарам было прапанавана аказаць першую даўрачэбную дапамогу пацярпелым.

Па выніках кожнага этапу падлічваліся ачкі і вызначаліся пераможцы. Так, на першым і другім этапах перамагла каманда Менскай вобласці, на другім - Берасцейскай, на чацвёртым - каманда горада Менска. Навагрудцы здолелі адзначыцца толькі ў аказанні медычнай дапамогі, дзе занялі другое месца. А па выніках усіх чатырох этапаў пераканаўчую перамогу атрымалі юныя інспектары Менскай вобласці, другое месца занялі каманды Берасцейскай і Гомельскай абласцей. Усе ўдзельнікі атрымалі каштоўныя падарункі, а каманда-пераможца атрымала яшчэ і запрашэнне да ўдзелу ў Расейскім злёце юных інспектараў.

# Кубкавы хэт-трык «Белшыны»

**У апошнюю нядзелю траўня стаў вядомы ўладальнік 10-га розыгрышу Кубка Беларусі па футболе. Ім стала ў трэці раз за апошнія пяць гадоў бабруйская «Белшына», якая ў фінале перамагла мазырскую «Славію» - 1:0. Пераможны гол на шостай хвіліне першай дададнай 15-хвілінкі забіў бабруйчанін Эдуард Градабоеў.**

**Цяпер «Белшына» і барысаўскі «БАТЭ» будуць прадстаўляць нашу краіну ў розыгрышы Кубка УЕФА, «Славія» - у Лізе чэмпіёнаў, а менскае «Дынама» - у Кубку Інтэртата. А чацвёртай камандзе мінулага года - «Нёману» - месца ў еўракубках не знайшлося.**

**Нагадаем, што ў бліжэйшыя суботу і серада нацыянальная і моладзевая зборныя Беларусі правядуць у Арменіі ды Нарвегіі чарговыя адборавыя гульні адпаведна да чэмпіянату Свету і Еўропы.**

# У Мялешкі суддзі скралі медаль

**На мінулым тыдні зборная Беларусі па ушу вярнулася з італійскага горада Перуджа, дзе праходзіў Кубак свету. Тры спартоўцы нашай краіны зававалі два медалі. На жаль, без узнагародаў застаўся гарадзенец Дзмітрый Мялешка, які выступаў у вагавай катэгорыі да 70-ці кілаграмаў. Дзмітрый у бaі за трэцяе месца саступіў мясцоваму ушуісту. Як расцэньваць гэты вынік, карэспандэнт ПАГОНІ спытаў у самога спарцмена.**

**- Усе свае перамогі я атрымаў па ачках. Спачатку быў мацнейшым за польскага ушуіста, потым перамог ліванца ды італійца, прызёра чэмпіянату Еўропы. А ў бaі за трэцяе месца сустракаўся з яшчэ адным італійцам. Бой быў роўным. Але ў адзін з момантаў супернік нанёс мне удар ў пахвіну, што ў ушу забаронена. За гэта суддзі павінны былі італійца дыскваліфікаваць, але гэтага не зрабілі, і я застаўся без медаля.**

**Пасля Кубка Свету зборная Беларусі значна павялічыла свой еўрапейскі рэйтынг, што дазваляе ёй на наступных буйных стартах выстаўляць да васьмі спартоўцаў.**

Падрыхтаваў Дзяніс Курчэўскі

## ПЯРЭСТЫ КУТ



**Заходзіш ў хату скідальчанкі Ніна Міхайлаўна Чаравач і нібыта трапляеш у музей народнай творчасці: вабяць сваімі карункамі вышыванкі ды вязанкі - дыванкі, сурвэткі, ручнікі, абрусы, навалачкі...**

Усе гэтыя рэчы - сапраўдныя творы мастацтва. Шмат якія з іх экспанаваліся на гарадскіх і раённых выставах. Ніна Міхайлаўна неаднаразова выходзіла пераможцай розных конкурсаў-аглядаў.

Дзе ж набыла Ніна Міхайлаўна свае майстэрства? Вучылася ў бабулі, матулі, суседак, сяброваk.

**Ільля Барысаў**

**На здымку: Ніна Чаравач**

**Фота аўтара**

# Наша зямлячка адзначыла 116-ы Дзень народзінаў!

**Днямі Фёкле Баброўскай, што жыве ў вёсцы Малыя Лягневічы Навагрудскага раёна, споўнілася 116 гадоў.**

Паводле дадзеных намесніцы начальніка статыстыкі насельніцтва Галіны Барысевіч, бабуля з'яўляецца самай старэйшай жыхаркай Гарадзеншчыны сярод 194 жыхароў, якія перасягнулі 100-гадовы рубеж. Жанчына перажыла на сваім доўгім вяку дзве сусветныя вайны і дзве рэвалюцыі. Жыла пры манархіі, Часовым урадзе, камунізме і працягвае жыць пры лукашызме.

Доўгажыхарка Фёкла Баброўская жыве разам з 80-гадовай дачкой, акрамя якой у яе ёсць яшчэ адна дачка і сын. На пенсію пайшла ў 79 гадоў. А зараз за тое, што адпрацавала больш чым паўстагоддзя і атрымала першую групу інваліднасці па агульных захворваннях, атрымлівае пенсію 37 871 рубель, што ўдвая менш за мінімальны спажывецкі кошык.

**Алесь Зарэмбюк**



ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня»
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 30.05.2001 г.
Замова 1 803 Наклад 7 705

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк
Камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей